У НУМАРЫ



# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (732) ГОД XV БЕЛАСТОК 8 САКАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.




...Магло б здавацца, што Ільіч проста выйшаў падыхаць свежым паветрам.

## ГОРАД СЯМІ ВЯТРОЎ

20 гадоў таму назад у групе польскіх студэнтаў плыў я на цеплаходзе з Масквы ў Сталінград. Шлях быў выключны. Волга! Маці рускіх рэк не толькі зачароўвае непамінаючай прыгажосцю, але і палоніць сваім мінулым. Па ім можна вывучаць гісторыю Расіі. Не мог я, будучы журналіст, які ў той час рыхтаваў сябе да гэтай прафесіі, не рабіць дарожных нататак. Сёння, гартаючы свой волжскі сшытак, я нанава пераражыў далёкае ўжо падарожжа. І мне захацелася запрасіць на яго, хоць на адзін дзень, нашых чытачоў.

II.VII. 1950

Перад намі крацістыя аркі вялікага жалезнага моста. Направа — гара, якую абселі асобныя домікі. З-за іх выныраюць белыя гмахі салідных пабудоў.

Прычалілі. Нецярплівімся. Хутчэй на бераг! Хутчэй адчуць подых зямлі, што дала чалавецтву генія. Радзіма Леніна! Тут усё гісторыя.

Доўгія драўляныя ўсходы вядуць нас угару. Лічым ступенькі. Збіваемся пасля шасцісотай і перастаем лічыць. Неўзабаве мы на гары. З ходу ў дом Леніна. Але музей адкрываецца праз некалькі гадзін. Дык глядзім горад. На адкрытай прасторы, у маляўнічай частцы горада — помнік Леніну. На высокім цокале бронзавая скульптура. Ленін стаіць з накінутым на плечы плашчом, які трэба прытрымаць рукамі, каб не здзёр вецер. Калі б не высокі цокал, магло б здавацца, што Ільіч проста выйшаў падыхаць свежым паветрам. А яно тут сапраўды свежае. Ад ветру, які, кажуць, ніколі тут не сціхае. Дык Сімбірск узяў назву ад двух слоў — сім-бір (сем ветроў). Жывапісная панарама на раку, якая ўнізе, за зеленню садоў, што таксама пад намі, на схіле гары.

Непадалёк сярэдняя школа — былая сімбірская класічная гімназія, у якой вучыўся Валодзя Ульянаў. Невялікі, беласценны будынак. Зграбны і паважны. Гляджу на мемарыяльную дошку з барэльефам галавы Леніна, а бачу залатую медаль. Тую, што атрымаў Валодзя Ульянаў на выпускным экзамене.

Быў май і, відаць, як і цяпер, пагодны дзень. А на душы было цяжка, яшчэ як цяжка. Ашаламіла вестка: старэйшы брат Аляксандр павешаны за ўдзел у падрыхтоўцы замаху на цара. Вестка не толькі выклікала гора ў сям'і (у ёй яшчэ зусім жывая была заўчасная смерць бацькі Валодзі, які памёр у папярэднім годзе), але і адгарадзіла Ульянавых ад гараджан глухой сцяной непрыхільнасці (дзяржаўны злачынца!).

Як ён перавышаў усіх, калі, нягледзячы на ўсё, залатую медаль вымушаны быў дырэктар гімназіі Фёдар Керанскі ўручыць Валодзі Ульянаву. Гэта была перамога Валодзі над сабой і акружэннем. Сведкам яе быў і сын дырэктара, які рыхтаваўся паступіць у першы клас гэтай жа гімназіі. Той самы Аляксандр Керанскі, які праз гады ўзначаліць Часовы ўрад і павядзе лютую барацьбу супраць бальшавікоў. Сімвалічная асабліваць.

На гэтай жа вуліцы помнік Ганчарову, выдатнаму сімбірцу, аўтару несмяротнага «Абломава», у якім рэалістычнымі фарбамі намаляваў крытычную карціну дваранства. «Абломаўшчына» стане сінонімам бяздзейнасці і ляніўства.

Побач цудоўны помнік іншаму ўраджэнцу гэтага незвычайнага горада — Карамзіну, стваральніку рускага сентыменталізма ў літаратуры, якім хацеў прымірыць усе класы. Як і Ганчароў, выказаў імкненні сваёй эпохі. Жыў толькі раней, іншымі і былі імкненні.

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

● 18 лютага адбылося спатканне кіраўніцтва ГП, журналістаў «Нівы» і кіраўніцтва гарадскога аддзела БГКТ з прадстаўнікамі студэнтаў з вышэйшых школ Беластока. Абмеркаваны былі справы ўдзелу іх у дзейнасці БГКТ.

● У сярэдніх школах Беластока вучыцца шмат беларускай моладзі. Аб уплывах БГКТ на яе, аб мерапрыемствах для моладзі 19 лютага шырока вялася гутарка на сустрэчы кіраўніцтва ГП з дырэктарамі сярэдніх школ. З вялікай інфармацыяй аб дзейнасці БГКТ выступіў сакратар ГП Янка Зенюк. Выступаў таксама кіраўнік аддзела сярэдняга школьніцтва куратарыі Вацлаў Філіпкоўскі, ад гарадскога камітэта ПАРП прысутнічаў Аляксандр Сеўка.

● У вёсцы Ялова ў Дуброўскім павеце арганізаваўся гуртох БГКТ. Праўленне гуртка складаецца з наступных асоб: Павел Макула — старшыня, Леанід Страмкоўскі — сакратар і Кастусь Страмкоўскі — скарбнік.

● Сямяціцкі аддзел БГКТ у памяшканні грамадскага дома культуры ў Мілейчыцах 19 лютага адкрыў выстаўку пад загалоўкам «Ленін у беларускім мастацтве».

● 2 лютага адбылося пасяджэнне прэзідыума бельскага аддзела БГКТ, на якім была разгледжана справаздача аб дзейнасці аддзела ў 1969 годзе і зацверджаны план працы аддзела і прэзідыума на 1970 год.

● У Масеве, Курашаве, Дубінах і Гайнаўцы адбыліся надаўна настаўніцкія канферэнцыі, на якіх былі зачытаны даклады аб Леніне і высветлены кінапарасоўкай ГП савецкія фільмы аб Леніне. Турнір ведаў аб Леніне адбыўся ў Кляшчэлях і Семяноўцы. Пасля таксама дэманстраваліся фільмы аб Леніне.

● 22 лютага з нагоды 52-ой гадавіны Савецкай Арміі ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку Іван Стрышко, былы салдат Савецкай Арміі, расказваў аб сваім баявым шляху ў час вызвалення Польшчы ад нямецкіх захопнікаў. (мх)

З НАГОДЫ ДНЯ ЖАНЧЫН УСІМ ЖАНЧЫНАМ, АСАБЛІВА АКТЫВІСТКАМ БГКТ, ШЛЕМ САМЫЯ САРДЭЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ І ПАЖАДАННІ ПОСПЕХАЎ У ПРАЦЫ І ЖЫЦЦІ.

ГП БГКТ

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### АРАФАТ У СССР

На працягу дзесяці дзён лютага ў Савецкім Саюзе па запрашэнню Савецкага камітэта салідарнасці з краінамі Азіі і Афрыкі знаходзілася дэлегацыя Арганізацыі вызвалення Палесціны (АВП) на чале са старшынёй выканкома АВП Ясірам Арафатам.

У час знаходжання ў СССР дэлегацыя сустракалася з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый, журналістамі, пісьменнікамі, ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, а таксама пазнаёмілася з жыццём савецкага народа. У Маскве адбыліся перагаворы паміж Савецкім камітэтам салідарнасці з краінамі Азіі і Афрыкі і дэлегацыяй Арганізацыі вызвалення Палесціны па пытаннях, якімі зацікаўлены абедзве арганізацыі, між іншым аб супрацоўніцтве ў агульнай барацьбе за ліквідацыю вынікаў імперыялістычнай сіяніцкай агрэсіі Ізраіля.

Дэлегацыя выказала шчырую падзяку савецкаму народу за яго нязломную і цвёрдую падтрымку справядлівай барацьбы арабскіх народаў.

### БЕСПРАЦОЎЕ Ў АНГЛІІ

У Англіі надалей захоўваецца высокі ўзровень беспрацоўя. Згодна з апублікаванымі данымі, у лютым у Англіі і ў Паўночнай Ірландыі налічвалася 660 тысяч поўнасцю беспрацоўных.

### ПАДЗЕІ Ў КІТАІ

Замежны друк, спасылаючыся на звесткі, атрыманыя ад асоб, якія прыехалі з Кітая, паведамляе, што мітынгі, якія праходзілі ў Пекіне ў самым канцы студзеня і ў першай палове лютага, склікаліся для паказальных публічных судоў над удзельнікамі нелегальных груліровак і што, як звычайна пасля такіх судзілішчаў, смяротныя прыгаворы тут жа прыводзіліся ў выкананне. Ганконгскія газеты сцвярджалі, што на «мітынгу», які адбыўся на пекінскім стадыёне 27 студзеня, былі прыгавораны да пакарання смерцю 19 юнакоў.

Паводле паведамленняў замежнага друку, такія ж публічныя суды праходзяць у іншых гарадах Кітая, але кітайскі друк і радыёстанцыі атрымалі строгае ўказанне нічога не паведамляць аб прыгаворах і пакараннях смерцю.

* ⁂ *

Кітайскія ўлады адмовілі супрацоўнікам пасольства СССР у КНР у паездках у гарады Ухань, Порт-Артур, Харбін і Шэньян для ўскладання вянкоў на магілы савецкіх воінаў у сувязі з 52-ой гадавінай Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту СССР.

Ва Ухані пахаваны савецкія лётчыкі-добраахвотнікі, якія аказвалі дапамогу кітайскаму народу ў яго барацьбе супраць японскай агрэсіі, у Порт-Артуры, Харбіне і Шэньяне — савецкія воіны, якія загінулі ў баях за вызваленне ад японскіх захопнікаў паўночнага ўсходу Кітая.

### ГРАМЫКА Ў ГДР

Па запрашэнню ўрада ГДР пабываў тут з афіцыяльным візітам міністр замежных спраў СССР А. Грамыка. Вяртаючыся з ГДР, Грамыка наведаў таксама Польшчу. (ак)



## БССР

### У ПРЭЗІДЫУМЕ

Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжаны вынікі арганізацыйнай работы мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных за 1969 год.

### ПЛЕНУМ

Адбыўся VII пленум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. Пленум заслухаў і абмеркаваў даклад старшыні рэспубліканскага савета І. Макарава «Аб задачах прафсаюзных арганізацый рэспублікі па выкананню рашэнняў снежаньскага Пленума ЦК КПСС, VII сесіі Вярхоўнага Савета Саюза ССР і VIII пленума ВЦСПС».

У пленуме ўдзельнічалі сакратар ЦК КП Беларусі А. Смірноў, першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Г. Жабіцкі.

### СХОД

У Мінску адбыўся рэспубліканскі сход партыйна-гаспадарчага актыву «Белсельгастэхнікі». У яго рабоце прынялі ўдзел кіраўнікі і спецыялісты, сакратары партыйных і камсамольскіх арганізацый, старшыні мясцовых камітэтаў прафсаюза, перадавікі вытворчасці аб'яднанняў і аддзяленняў, прадпрыемстваў і трэстаў, гандлёвых баз, станцый тэхнічнага абслугоўвання і іншых арганізацый сістэмы «Белсельгастэхніка».

З дакладам выступіў старшыня рэспубліканскага аб'яднання Л. Хітрун.

На сходзе з прамовай выступіў сакратар ЦК КП Беларусі У. Міцкевіч. У рабоце сходу прынялі ўдзел першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Лабанок і іншыя асабістасці.

### АКТЫЎ

У Пінску адбылася нарада партыйна-гаспадарчага актыву, скліканая ЦК КП Беларусі і Міністэрствам меліярацыі і воднай гаспадаркі Саюза ССР.

На беларускім Палессі разгорнуты вялікія работы па асушэнню і загаспадараванню забалочаных зямель. За чатыры гады пяцігодкі ўведзена ў карыстанне трыста тысяч гектараў меліяраваных зямель, у тым ліку 59 тысяч гектараў, асушаных закрытым дрэнажом. Праграма загаспадаравання палескай цаліны разлічана на некалькі пяцігодак. Мяркуецца давесці плошчы асушаных зямель да 2,2 мільёна гектараў.

### ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

Адбылася чарговая прэс-канферэнцыя для работнікаў газет, часопісаў, выдавецтваў, радыё і тэлебачання горада Мінска. З паведамленнем «Роля навукі ў павышэнні эканамічнай эфектыўнасці грамадскай вытворчасці» выступіў прэзідэнт Акадэміі навук Беларускай ССР Н. Барысевіч. Ён прааналізаваў гістарычны шлях развіцця навуковай думкі ў Беларусі, падрабязна спыніўся на пытаннях сувязі навукі з вытворчасцю.

### «МІНСК - 32»

Новая электронна-вылічальная машына «Мінск-32», распрацаваная беларускімі кібернетыкамі, стане асноўнай у сістэме савецкай гідралагічна-метэаралагічнай службы. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### АНДРЭЙ ГРАМЫКА Ў ВАРШАВЕ

Вяртаючыся з Берліна ў Маскву, міністр замежных спраў СССР Андрэй Грамыка затрымаўся ў Польшчы. Міністр А. Грамыка быў прыняты І-шым сакратаром ЦК ПАРП Уладзіславам Гамулкам. Міністр замежных спраў ПНР С. Ендрыхоўскі выдаў абед у гонар савецкага госця.

### МІЖНАРОДНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ ПАН

У маі ў Варшаве адбудзецца канферэнцыя савецкіх і польскіх вучоных на тэму польска-рускіх літаратурных сувязей XX стагоддзя. Канферэнцыю такую арганізуе літаратурны інстытут ПАН з выпадку 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна. Таксама ў маі 40 гісторыкаў прыедзе ў Варшаву на міжнародны сімпозіум аб ролі цэнтральнай Еўропы ў II сусветнай вайне. ПАН будзе гаспадаром кангрэсаў і канферэнцый прадстаўнікоў тэхнічных навук, юрыстаў — спецыялістаў па законам працы, фізікаў, археолагаў, этнографаў, сацыёлагаў, спецыялістаў па сельскай гаспадарцы.

### ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР «ПРАЎДЫ» Ў ПОЛЬШЧЫ

Па запрашэнню «Трыбуны люду» пабываў у Польшчы галоўны рэдактар «Праўды» Міхаіл Зімянін. На супольнай сустрэчы з кіраўніцтвам «Трыбуны» журналісты абмяняліся вопытам і намецілі планы супрацоўніцтва паміж «Трыбунай Люду» і «Праўдай».

### 1970 ГОД У «КіВ»

«Książka i Wiedza» выдасць у бягучым годзе 268 загалоўкаў літаратуры: марксісцкай, палітычнай і грамадска-палітычнай тыражом у 11 мільёнаў экземпляраў. У гэтым выдавецтве выйдзе 42-гі том твораў Уладзіміра Леніна. З выпадку 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна выдавецтва выдае «Кароткую біяграфію У. Леніна». Будзе закончана выдавецкая серыя «Выбраныя пытанні ленінізма», якая складаецца з васьмі пазіцый. Том успамінаў палякаў, якія сутыкаліся з Леніным, будзе называцца «Палякі пра Леніна». У тым жа выдавецтве ў серыі «Краіны» выйдзе многа цікавых манаграфій: пра Сіям, Аргенціну, Камбоджу, Венесуэлу, Калумбію, Перу, Чылі.

### РАЗВІЦЦЁ ГАСПАДАРКІ

Па ініцыятыве Цэнтральнай партыйнай школы адбылася тут канферэнцыя, прысвечаная пытаннням інтэнсіўнага развіцця гаспадаркі. Удзел у ёй прынялі лепшыя спецыялісты — вучоныя краіны.

### IV З'ЕЗД ЗМВ

У мінулым тыдні праходзіў у Варшаве IV з'езд ЗМВ. Сваю працу канцэнтраваў ён на справах маладога пакалення сённяшняй вёскі, яго ролі і ўдзеле ў жыцці і сацыялістычнай перабудове вёскі. Сацыялістычнае выхаванне моладзі і яе добрая падрыхтоўка да ролі гаспадара — вось асноўныя заданні Саюза вясковай моладзі. Старшынёй Галоўнага праўлення ЗМВ быў зноў выбраны Здзіслаў Куроўскі. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

Усё яшчэ паступаюць паведамленні аб новых абавязацельствах з нагоды ленінскага юбілею і 25-ай гадавіны перамогі. Калектыў прадпрыемства дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай абавязаўся працаваць грамадскім чынам аж 10 тысяч гадзін. Адначасова рабочыя сэканомяць 35 тон сталі. Будаўнікі ў Саколцы абавязаліся план першага квартала г.г. перавыканаць на 110%. Рабочыя бельскага ільнозавода абавязаліся па 8 гадзін часу кожны прысвяціць на грамадскую працу пры ўпрыгожванні горада. Іх прадукцыйныя абавязацельствы ацэньваюць на 640 тысяч злотых.

### ВЫСТАЎКА

Беластоцкі музей рэвалюцыйнага руху наладзіў выстаўку малюнкаў савецкіх мастакоў, якія свае працы прысвяцілі адлюстраванню жыцця і барацьбы Уладзіміра Ільіча. Гэтая выстаўка набліжае да нас вобраз Леніна як жывога чалавека, якому не чужое ўсё, што людское.

### ГОСЦІ

У Беластоку, Гайнаўцы і Белавежы пабывалі прадстаўнікі маладзёжнай арганізацыі — Свабоднай нямецкай моладзі — з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Дэлегацыю ўзначальваў сакратар Цэнтральнай рады СНМ Эрых Постлер. Нямецкія госці цікавіліся дзейнасцю Саюза вясковай моладзі.

### ІМЯ ПЧК

Беластоцкай гарадской бальніцы прысвоена імя «Польскага чырвонага крыжа». Ва ўрачыстасцях, якія былі наладжаны з гэтай нагоды, прыняла ўдзел старшыня Галоўнага праўлення ПЧК, доктар Ірэна Доманьска. Адначасова беластоцкая гарадская бальніца адзначыла дзесяцігоддзе сваёй дзейнасці.

### У СПУЛДЗЕЛЬЧЫХ ПАМЯШКАННЯХ

На тэрыторыі Беласточчыны кватэрныя спулдзельні пабудавалі ўжо амаль 13 тысяч памяшканняў, у якіх жыве 40 тысяч чалавек. Жыллёвае спулдзельчае будаўніцтва найбольш паспяхова развіваецца ў Беластоку, Бельску, Ломжы, Элку, Сувалках і Аўгустове. Вартасць маёмасці гэтых спулдзельняў ацэньваюць амаль на паўтара мільярда злотых.

### АГЛЯДЫ

Ва ўсіх паветах Беластоцкага ваяводства наладжваюцца зараз агляды для спевакоў-аматараў, якія прымаюць удзел у агульнапольскім конкурсе на савецкую песню. Першыя агляды адбыліся ў Гайнаўцы і Кольне.

### САМАГОНШЧЫК

У Сцяпана Грыгарука з вёскі Ляды ў Гайнаўскім павеце міліцыянеры ў час вобыску знайшлі аж 149 літраў самагонкі. Апрача вырабу самагонкі, гэты гаспадар займаўся таксама браканьерствам. Міліцыянеры знайшлі ў яго 15 петляў на зайцаў. Самагоншчыку і браканьеру прыдзецца адпакутаваць за гэтыя злачынствы. (вр)




**NIEDZIELA, 8.III.**

8.10 Program dnia. 8.15 TV Kurs Rolniczy: „Wykorzystanie projektów typowych w budownictwie inwentarskim". 8.50 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: „Zakład o śmierć" — film TVP („Czterej pancerni i pies"). 10.20 „Naczelnik Czukotki" — film fab. radz. 11.45 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 12.00 Dziennik. 12.15 „Być kobietą" — program filmowy. 12.45 Koncert Laureatów VII Studenckiego Festiwalu Jazzowego. 13.30 PKF. 13.40 „Przemiany". 14.10 „Charaktery". 14.25 „Pociągiem przez świat" — film. 14.55 „Bonanza" — film 15.50 „Piórkiem i węglem". 16.15 „Charaktery". 16.30 „Wielka gra". 17.25 „Charaktery". 17.40 „Maria, Kazimiera, Joanna". Scenariusz — St. Grodzieńska. 18.10 „Charaktery". 18.25 „Tematy z Szekspira" — film balet. TVP. 18.45 Dobranoc. 19.00 Festiwal Piosenki „Złoty Jeleń" (Brasov — Bułgaria). 20.30 Dziennik. 21.05 „Charaktery". 21.20 „Sprawa Madoxa" — film tv ang. 22.20 „Amoroso" — dozwolone od 18 lat". 22.40 Magazyn Sportowy.

**PONIEDZIAŁEK, 9.III.**

14.25 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Echo stadionu". 17.50 „Mała pantera" — film rum. 18.05 „Sylwetki X Muzy" — Mieczysław Pawlikowski. 18.35 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: K. Braun — „Piszę pamiętnik artysty" (kartki z biografii C. K. Norwida). 21.25 „Polski Film Dokumentalny". 21.55 Przeboje Studia Piosenki TV NRD. 22.35 Dziennik.

**WTOREK, 10.III.**

8.25 Film fab. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Święto Lipcowe". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. XI i III lic.) Język polski — L. Kruczkowski „Niemcy". 11.40 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Pielęgnacja bydła". 13.15 Przerwa. 14.25 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.45 „Do pana szewca". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Drogi zwycięstwa". 20.35 Film fab. 22.10 „Panorama Literacka". 22.40 Dziennik.

**ŚRODA, 11.III.**

10.00 „Czerwona seria" — film TVP („Czterej pancerni i pies"). 11.00 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Wysoki sądzie!". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Kino Bolka i Lolka" — piąty wieczór filmów. 17.20 TV Kurier Warszawski. 17.35 Magazyn ITP. 17.50 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.20 „Wyprawy" — film. 18.45 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Czerwona seria" — film TVP („Czterej pancerni i pies"). 21.05 „Światowid". 21.35 PKF. 21.45 „Triumf Rameau" — program baletowy. 22.15 Dziennik.

**CZWARTEK, 12.III.**

8.15 Matematyka w szkole: „Zastosowania pochodnych" cz. II. 8.45 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Szlakiem „Kubusiów" i „Jędrusiów". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — E. Orzeszkowa „ABC". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — St. Żeromski „Ludzie bezdomni". 12.30 Przerwa. 12.45 i 13.35 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja doju". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.35 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Urlop" („Czwarta zmiana"). 18.40 „Przed Wielkim Konkursem" — program muzyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Giełda piosenki". 20.40 Teatr KOBRA: F. Durbridge — „Szal" cz. I. 21.50 „Polska zza siódmej miedzy". 22.20 Dziennik.

**PIĄTEK, 13.III.**

10.00 „Kraksa" — film fab. radz. 11.40 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — „Xawery Dunikowski". 12.25 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Szkoła Jungów Latającego Holendra". „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" — film. 17.45 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 „Nie tylko dla pań". 18.20 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 18.50 „Geografia tańca" — program baletowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Monidło" — film TVP. 20.30 „Kraj" — tygodnik społeczno-polityczny. 21.20 Teatr TV: M. Sałtykow-Szczedrin — „Cienie". 22.20 Dziennik.

**SOBOTA, 14. III.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Na biegunie południowym". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Krajobraz stepowy". 11.25 „Królowa balu" — film fab. radz. 12.50 Przerwa. 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Adaptacja budynków inwentarskich". 15.00 Program tygodnia. 15.20 Przerwa. 16.20 Program dnia. 16.25 „Oferty". 16.40 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów". 18.00 „Między Wenecją a Rzymem" — rep. z podróży do Włoch" cz. II. 18.30 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Muzyka lekka, łatwa i przyjemna". 21.20 Dziennik. 21.40 „Królowa balu" — film fab. radz. 23.05 Finał Koncertu Festiwalu Piosenki Włoskiej w San Remo.




**PIĄTEK, 6 MARCA**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla przedszkolaków. 8.45 TV barwna. 9.50 Rzeźbiarze ludowi. 10.35 Nowiny. 14.35 Program dnia. 14.40 „Panorama nowin". 14.55 Koncert na Dzień Kobiet. 19.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie (Tańce sportowe).

**SOBOTA, 7 MARCA**

8.00 Przegląd międzynarodowy. 8.15 Klub TV. 9.00 Filmy animowane dla dzieci. 9.30 „Muzyka wczorajsza". 9.55 „Odbiór telewizyjny" (techniczna konsultacja). 10.15 Koncert. 10.45 „Eureka". 11.15 „Pociąg czeka pięć minut". Spektakl TV. 12.10 Przegląd tygodniowy. 12.30 „Melioracja i irygacja". 13.15 Nowiny. 13.20 „Nasz dom". 14.00 „Kronika półwiecza. Rok 1926". 14.50 Nowiny. 15.00 Program z Baku. Między innymi koncert artystów Azerbejdżańskiej SRR. 18.45 „Świat socjalizmu". 19.15 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie (Kobiety. Program dowolny).

**NIEDZIELA, 8 MARCA**

8.00 „Godzina Ojczyzny". 9.00 „Kiosk muzyczny". 9.30 Dla żołnierzy. 10.00 Koncert życzeń. 10.30 „Tylko o kobietach". 11.00 TV barwna. 13.00 „Godzina wiejska". 14.00 TV barwna. 16.00 Nowiny. 16.05 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Występ pokazowy. 19.30 „Siedem dni". 20.15 Film fabularny. 21.40 Nowiny.

 



# Фальклор з Відава

1.

Доля ж мая, доля,
По лесі блуділа.
Нашто ж мэнэ маті
Бэз долі роділа.
Породіла мэнэ у проводну нэделю,
Дала ліху долю, дэж я еі подену.
Повэзу я долю у место продаваті,
Кажут, што ліхая, нэ хочут купляті.

2.

Кусце косят, Бога просят:
Дай нам Божэ погодоньку
На нашую работаньку.
Дай нам Божэ покосіті
І у стодолы повозіті.

3.

Буяй, буяй, горошэ,
У чыстым полі хорошэ.
Як прыдут тэбэ браті,
Пэрэстанэш буяті.
Буяй, буяй, дівонько,
Як у свого батэнька.
Як пойдэш до чужого,
То забудэшсе усёго,
Гулянэчка своёго.

4.

Ой, чы ўсе тые садоньні цвілі,
Што порозвівалісе.
Ой, чы ўсе тые той побралісе,
Што верно кохалісе.
Половінэнька садоньку цвіло,
Половіна пустуе.
Половінэнька той побралосе,
Половіна жартуе.

5.

Мала пташэнька, нэвэлічэнька,
По чорнуй роле скачэ.
Дурна девчына, розуму нэма,
По кавалерах плачэ.
Ой якжэ ж мне той нэ плакаті?
Самі слёзонькі ліюцце.
Од міленького пісьмочку нэма
Од нэлюбого шлюцце.

6.

Колясом слонэчко у гору едэ,
Наша Марысенька до шлюбу едэ.
Ой едэ, едэ і выжджае,
Просіт матэнькі на спомогане.
Нэхай тэбэ дочэньку сам Бог спaward
I ўсе святые людэ добрые.
Вей, ветрэ, дорогою
За нашою молодою.
Розвей косу — росу
На плечах по волосу.

7.

Плывэ човончык од мора до озёра
Чом ты, Настольку, смутна і нэвэсёла?
О, як жэ мне весёленькуй быті,
Колі нэ хочэ Юстэнко говорыті.
Вон нэ говорыт, ёму голоўка боліт,
А мне сэрдэнько ные.
Ёму голоўка, а мне сэрдэнько ные,
Дэсь той Юстынко з іншымі піво піе.
Ой піе, піе у месті на рыночку.
Дай ёму Божэ шчасліваую годіночку.
Сэ пры дэвчіні то покарай ёго Божэ.
Сэ пры дорозі то поздороў ёго Божэ.
Ой карай, карай вэлікімі карамі,
Беленькім лічэньком, чорнымі очэнькамі.
Месэчэк зыдэ, вон до мэнэ прыдэ,
Месэчэк зайдэ, вон од мэнэ пойдэ.

8.

По бору олень ходіт,
По бору олень ходіт,
За ім Ясенько ездіт,
Стрэльбоньку набівае,
Стрэльбоньку набівае
В оленя нэ трапляе.
Нэ попаў у оленя,
Нэ попаў у оленя,
Но сам собе ў колено.
Схіліў Ясь головоньку,
Схіліў Ясь головоньку
Коніку на грывоньку.
Як прыехаў до дому,
Матуленьку пытае:
Ой, матулю, матулю,
Ой, матулю, матулю,
Чом я долі нэ маю,
В оленя нэ трапляю?
Нэ бэры сынку вдовы,
Нэ бэры сынку вдовы,
Нэ будэш меті долі.
Бэры, сынку, дівоньку,
Бэры, сынку, дівоньку,
Будэш меті доленьку.
Бо у дівонькі сэрце,
Бо у дівонькі сэрце,
Як вэсьняное соньце.
Хоч воно хмурнэнькое,
Хоч воно хмурнэнькое,
Но воно тэпленькое,
А удовонькі сэрце,
А удовонькі сэрце,
Як осенное сонце.
Хоч воно яснэнькое,
Хоч воно яснэнькое,
Но воно зімнэнькое.

9.

Белмолодэць сено косіт,
Бедна вдова есці носіт.
Нэсла, нэсла, нэ донэсла,
У край Дунаю поставіла,
Белого сына породіла.
Породівшы, выкупала,
Выкупавшы, уповіла,
Уповівшы, говорыла:
Мой ты сынку мілюсенькі,
Які ты мне гожусенькі.
Чы мне тэбэ годоваті?
Чы мне тэбэ утопіті?
Годоваті от люді смех.
Утопіті од Бога грэх.
Белмолодэць тое чуе.
Кінуў косу на покосы,
Кінуў косу на покосы,
Сам прыскочыў до ўдовонькі.
Чы ты, вдово, ошалела,
Як нас маті годовала,
Як нас маті годовала,
Тэмной ночы нэ доспала
Потешенькі дожыдала,
І мы будэм годоваті,
Потешэнькі дожыдаті.

**Ад 82-гадовай Ганны Янцэвіч з Відава (Бельскі павет) запісаў Міхась Давідзюк.**

# І на мужчын ёсць закон

**Прапануем чытачу з выпадку свята жанчын размову з Ядвігай Матошка — суддзёй ваяводскага суда і старшынёй ваяводскага праўлення лігі жанчын.**

**Як грамадскі дзеяч, суддзя Я. Матошка дае таксама парады ў грамадска-праўнай парадні лігі жанчын у Беластоку. Часта выязджаючы на сустрэчы, размаўляе з рознымі жанчынамі аб розных іхніх справах.**

**Праблемы сучаснай жанчыны ведае добра. Ужо дзесяць год безупынна працуе грамадска і стараецца жанчыне дапамагчы.**

**А жанчына сучасная? Што ведаем пра яе і яе клопаты? А мо іх няма? Здаецца, што варта адсвяткаваць жаночае свята хвілінай задумы над лёсам жанчыны — добрым і кепскім.**

**Жанчыне тэарэтычна адкрыты дзверы ўсюды — у навуку і працу. Гаворачы з суддзёй Я. Матошка, даведваемся, што: 33% усіх суддзяў, адвакатаў і пракурораў у нашай краіне складаюць жанчыны; што суддзя Зоф'я Васількоўская, вядомы жаночы дзеяч, з'яўляецца першай у Польшчы жанчынай — суддзёй Найвышэйшага суда; што пры галоўным праўленні лігі жанчын існуе секцыя жанчын — юрыстаў і яе заслуга ў тым, што ў новым кодэксе век мужчын, якія могуць жаніцца, быў павышаны да 21 года.**

**У лютым 1970 года секцыя жанчын-юрыстаў узнікла і ў Беластоку. Яе старшынёй стала суддзя Наталія Эйсмант, намеснікам — пракурор Аліцыя Пятроўская, сакратаром — адвакат Марыя Бялявец.**

**Жанчыны маюць правы, і ўсе яны павінны ведаць пра гэта. Гэтаму служаць сустрэчы, размовы і, найважнейшае, грамадскія праўныя парадні: у Беластоку — гарадская, а ў паветах — павятовыя. У Гайнаўцы такой парадні няма, але жанчыны з гэтага павета могуць карыстацца парадняй у Бельску ці Беластоку. Нават пісьмова можна прасіць парады.**

**Грамадска-праўныя парадні лігі жанчын усё больш становяцца ўстановамі, баронячымі жанчыну, даючымі ёй у рукі закон. Закон на крыўды свае і сваіх дзяцей. Закон на кепскіх мужчын і мужоў, якія жанчыну найбольш і найчасцей крыўдзяць.**

**З парадняімі супрацоўнічае ў Беластоцкім ваяводстве 225 асоб — розных спецыялістаў: 72 юрысты (у тым 11 суддзяў, 50 адвакатаў, 8 пракурораў, 3 радцы праўныя), 38 педагогаў, 40 лекараў (32 педыятры, 4 гінеколагі, 4 псіхолагі), 22 радныя, 43 грамадскія апекуны, 3 судовыя куратары.**

**У 1969 годзе ўсе парадні ваяводства далі 2420 парад. (у тым 680 датычылі аліментаў, 190 — разводаў, 250 — алкагалізму, 350 — працы, 250 — матэрыяльнай дапамогі, 170 — сямейных канфліктаў, 230 — дапамогі ў выхаванні дзяцей, 300 — іншых спраў). Парадні напісалі 350 позваў у справе аліментаў і разводаў. У 1969 годзе ў парадні звярнулася на 400 жанчын больш, чым у 1968 годзе.**

**Вобраз жанчыны змяняецца. Гэта не тая ўжо жанчына, што была дзесяць год таму назад. Нават самая простая і запрацаваная вясковая жанчына прыходзіць цяпер і кажа: «Я ведаю, што ёсць законы». Жанчыны шукаюць іх. Не так як даўней: выйшла замуж, жыць невыносна цяжка, але цярпела, бо муж быў правам і законам. Даўней толькі муж быў напаказ, а жонка глядзела яго вачамі на свет. Цяпер і жанчына ўсё часцей хоча жыць і прымаць удзел у грамадскім жыцці. Такія сем'і зрэшты, сем'і сяброўскага тыпу, трымаюцца найлепш. Кепска ў сям'і, калі муж (мужчына наогул павольней прызвычайваецца да новых катэгорый жыцця), хоча бачыць у жонцы толькі гаспадыню і рабочую сілу.**

**Жанчына сталася больш адважнай, смела прыходзіць да юрыста, смела пытае пра справы, якіх даўней саромелася, (напрыклад справа ўстанаўлення так званага бацькоўства дзіцяці, калі муж ці проста мужчына не хоча плаціць аліментаў). Жанчына цяпер патрапіць бараніць сябе і дзяцей. Але яна яшчэ шырэй павінна выйсці на свет. «Мы стараемся выцягнуць жанчыну і ўключыць яе ў грамадскае жыццё, — кажа суддзя Я. Матошка, — каб яна смела і поўным голасам загаварыла пра свае правы і сваю ролю ў жыцці і выхаванні сям'і».**

**Трэба прымусіць жанчыну шукаць рады на ўласныя праблемы, разбудзіць у ёй шырэйшае зацікаўленне навукай. Калі жанчына здабывае адукацыю, тады ўзровень усяго грамадства падымаецца, бо жанчына перад усім займаецца выхаваннем дзяцей — будучых грамадзян краіны.**

**Трывалая сям'я, дзе дзеці растуць у атмасферы згоды і ўзаемнай пашаны, — гэта наша мэта. Роля жанчыны ў гэтым найважнейшая, але жанчыны светлай, смелай, паўнапраўнай.**

**Вера Леўчук**



**Сцэна з п'есы «Люцынка-інжынерыха». Выступаюць Ірэна Шакала і Марыся Скепка.**



**Акардэаністы і адначасова салісты Васіль Раманчук і Ёзік Мішчук.**



**Салістка Марыя Чурак.**



**Акардэаніст Ян Анікей.**



**Галена Бугвін заказвае чарговы нумар праграмы.**

## Самадзейнікі з Арэшкава

Самадзейнікі з Арэшкава сталі вядомыя на ўсёй Гайнаўшчыне. Уславіліся яны эстраднымі канцэртамі, з якімі выступалі ў многіх вёсках, на фестынах і ўрачыстых вечарынах. Усе члены калектыву выконваюць песні і іграюць на музычных інструментах на даволі высокім мастацкім узроўні. У апошні час арэшкаўскія самадзейнікі падрыхтавалі п'есу Сакрата Яновіча пад загалоўкам «Люцынка - інжынерыха». П'есай гэтай яны значна ўзбагацілі свой рэпертуар. Гэтым калектывам апекуецца гайнаўскі аддзел БГКТ. Вышэй друкуем фотарэпартаж.

**Фота Віктар Бура**

## У нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

17 лютага т.г. адбылося пасяджэнне нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку, прысвечанае абмеркаванню працы нацыянальных таварыстваў у галіне збірання і распаўсюджвання рэгіянальнага фальклору.

У гэтай справе інфармацыі зрабілі прадстаўнікі нацыянальных таварыстваў, дзейнічаючых на Беласточчыне (інфармацыю ГП БГКТ, якую зрабіў сакратар ГП Янка Зенюк, апублікуем у наступным тыдні).

Апрача членаў камісіі, у пасяджэнні прынялі ўдзел запрошаныя спецыялісты. Як у інфармацыях прадстаўнікоў нацыянальных таварыстваў, так і ў выступленнях дыскутантаў адчуваліся глыбокія клопаты аб выдабыцці і належным забеспячэнні народнага багацця, якім з'яўляецца фальклор. Падкрэсліваліся добрыя захады ў гэтым напрамку нашага таварыства. Выказана было таксама шэраг цікавых прапаноў. Назавем некаторыя: арганізаваць фестываль фальклорных калектываў, арганізаваць беларускі скансен, залажыць пры ГП БГКТ фальклорны архіў, садзейнічаць шырэйшай дзейнасці народных творцаў, аб'яўляць конкурсы, наладжваць выстаўкі.

Падсумоўваючы нараду, старшыня нацыянальнай камісіі, загадчык аддзела культуры ВРН у Беластоку Збігнеў Дамброўскі асабліва падкрэсліў, што ахова помнікаў народнай культуры з'яўляецца справай неадкладнай, бо час знішчае іх, і трэба ратаваць усё, што можа загінуць. (рл)



 

# • ЗВАРОТ •

## МУЗЕЯ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ Ў БЕЛАСТОКУ ДА ГРАМАДСКАСЦІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

У апошні час шырокія колы нашай грамадскасці, асабліва моладзь, усё больш цікавяцца гісторыяй барацьбы рабочага класа і сялянства, гісторыяй нашай партыі і яе роляй у кшталтаванні нашага жыцця. У сувязі з гэтым Музей рэвалюцыйнага руху падрыхтоўвае ў 1970 годзе новую выстаўку, якая будзе паказваць багатыя рэвалюцыйныя традыцыі нашай зямлі. Будзе гэта выстаўка гістарычнага характару, яе галоўная мэта — паказаць прагрэсіўны грамадскі рух у Беластоцкім ваяводстве, пачынаючы ад 70-х гадоў XIX стагоддзя да аб'яднання рабочага руху ў 1948 г. Мы хочам паказаць шляхі рабочага класа, яго становішча і барацьбу, нацыянальны і сялянскі рух, палітычныя партыі, прафесіянальныя саюзы і барацьбу моладзі ў міжваенныя гады, у перыяд гітлераўскай акупацыі; паказаць як фарміравалася народная ўлада і развівалася наша ваяводства ў перыяд Народнай Польшчы. Каб лепш апрацаваць будучую выстаўку, каб узбагаціць яе новымі гістарычнымі крыніцамі, **звяртаемся да барацьбітоў за грамадскае і нацыянальнае вызваленне, да іх сем'яў, да членаў дзейнічаючых на гэтай тэрыторыі палітычных партый, прафесіянальных саюзаў, маладзёжных арганізацый, настаўнікаў і школьнікаў, а таксама да ўсіх тых, хто можа дапамагчы нам, перадаваць нам усялякія памяткі, якія б адлюстроўвалі гістарычныя падзеі. Нас цікавяць: лістоўкі, плакаты, афішы, транспаранты, газеты, брашуры, дзённікі, фотаздымкі, лісты, легітымацыі, судовыя прыгаворы за рэвалюцыйную дзейнасць, узнагароды, дакументы, вопратка з гітлераўскіх канцэнтрацыйных лагераў і іншыя прадметы асабістага ўжытку.**

Шмат надзвычай цікавых дакументаў, якія маюць вялікую гістарычную вартасць, знаходзіцца ў паасобных людзей; яны ляжаць нявыкарыстаныя, часамі недагледжаныя адпаведна, знішчаюцца. **Справа гонару і патрыятычнага абавязку кожнага ўладальніка гэтых дакументаў — ахоўваць іх перад знішчэннем, даць магчымасць паказаць іх грамадскасці.**

Ад колькасці дакументаў, ад іх гістарычнага значэння, апрацоўкі і падбору залежыць змест выстаўкі, г.зн. яе значэнне навуковае і ідэйна-палітычнае. Папулярызаваць нашыя навейшыя падзеі — гэта значыць, не толькі пашыраць нашыя канкрэтныя веды, але і аддаць даніну памяці ўсім тым, хто аддаў свае сілы і жыццё за свабоду і развіццё нашай краіны. Прадметы-экспанаты прымаем да сталай калекцыі, пазычаем на нейкі час або купляем.

Мы глыбока перакананы, што на наш заклік адгукнецца ўся грамадскасць Беласточчыны. **Просім, такім чынам, дасылаць экспанаты або весткі аб іх у Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку, вул. Кілінскага 6, тэл. 34—81.**

Музей рэвалюцыйнага руху



Пачатак на стар. 1

# ГОРАД СЯМІ ВЯТРОЎ

Але нас, перш за ўсё, цікавіць сімбірац, які, таксама будучы сынам сваёй эпохі, выбраў шлях найлепшы і вывеў на яго Расію, а ўслед і іншыя народы.

Вось і дом Леніна. Малы, драўляны, вымалеваны ў чырвоны колер. Скромны і ўтульны. У сярэдзіне таксама: вялікая прастата і скромнасць (а дырэктар народных вучылішч Сімбірскай губерні Ілья Ульянаў залічаўся ж да гарадскіх вярхоў). Не хочацца пакідаць гэтых пакояў. Зусім не адчуваеш, што ты ў музеі. Хутчэй — у гасцях. І нічога больш.

На стале папяровыя салдацікі, якімі малы Валодзя выігрываў войны. Побач верш мясцовага паэта, якім сястра Валодзі вітала бацьку на яго імянінах.

Пакоік Сашы пры Валодзіным. Кніжкі гавораць аб зацікаўленні маладога рэвалюцыянера — народавольца. На цэнтральным месцы «Капітал» Маркса.

Аднак Аляксандр хацеў змяніць свет забойствам цара. Таксама даніна часу.

І ў гэтых жа сценах Валодзя, уражаны страшнай весткай аб смерці брата, заявіў, што не такім шляхам трэба ісці: «Мы пойдзем іншым шляхам».

Збылося. Таму і гэты дом, як і ўсе іншыя месцы, звязаныя з жыццём Леніна, мае для нас такую вартасць.

Музей быў арганізаваны ў 1928 г. Панейкім часе прыкмецілі, што ў сценах яго завяліся чэрві. Дому пагражала небяспека. Разбіралі бэлька па бэльцы, мачылі ў спецыяльнай вадкасці і зноў складалі. Будынак быў выратаваны. З гэтай жа мэтай унутры ўтрымліваецца штучная тэмпература. Спецыяльныя супрацьпажарныя прылады-аўтаматы ахоўваюць дом ад пажару.

Пакідаем Ульянаўск пад вялікім уражаннем перажытых хвілін. Наш цеплаход бярэ курс на Куйбышаў, а я ўстарыне: у баржах, што плывуць насустрач, бачу рэпінскіх бурлакоў і чоўны Сцяпана Разіна. 200 год да нараджэння Леніна славуты народны атаман штурмаваў у Сімбірску войска царскага ваяводы. Яшчэ адна даніна часу.

Далёка відаць гара, быццам зрэзаная ў палавіне, каб мог на ёй усадавіцца горад сямі вятроў. Доўга і выразна відаць контуры помніка правадыру пралетарыяў, якім вятры народных рэвалюцый вяртаюць чалавечую годнасць.

Стаім на верхняй палубе, пакуль горад не счэзне з вачэй.

**Г. Валкавыцкі**


Сталовая Ульянавых.


Ля дома Ульянавых.

## КОНКУРС «РУХ»-у

Клубы «Рух» стаюцца найбольш масавымі і прыдатнымі цэнтрамі культуры ў вёсцы і мястэчку. Пастаянна выпрацоўваюць яны ўсё новыя формы працы. Каб дапамагчы клубам у іх працы, прадпрыемства «Рух» аб'яўляе конкурс. Яго мэта — сабраць вопыт і пазнаёміць з метадамі выхаваўчай працы з моладдзю занядбанай, п'ючай алкаголь і г.д.

Удзел у конкурсе можа прыняць клубны дзеяч альбо група дзеячаў. Трэба апісаць уласныя цікавейшыя мерапрыемствы, арганізаваныя ў клубе, ці назіранні над моладдзю, якая ў клуб прыходзіць. У апісанні трэба паказаць уплыў усяго асяроддзя на клуб і яго працу, паказаць новыя ініцыятывы і формы працы ў клубе. Усё на канкрэтных прыкладах.

Узнагароды: І-шая — 6 тысяч зл., 2 ІІ-ія — па 4 тысячы зл., 3 ІІІ-ія — па 2,5 тысячы зл. 10 тысяч злотых прызначаецца на далейшыя ўзнагароды.

Працы прысылаць да 30.IV.1970 г. па адрасу: Warszawa, PUPiK «Ruch», ul. Bagatela 14.

## Маланкавы конкурс

**ГП БГКТ хоча свае выданні (як гэта робяць многія выдавецтвы) фірмаваць выдавецкім значком. У сувязі з тым, што ўзніклі клопаты ў выбары найбольш адпаведнага, ГП адклікаецца ў гэтай справе да апініі нашых чытачоў і аб'яўляе маланкавы конкурс на выбар фірмовага значка сваіх выданняў.**

**З васьмі праектаў, якія змяшчаем, трэба выбраць адзін і яго нумар з дакладным сваім адрасам выслаць у ГП БГКТ, дапісваючы на канверце «Маланкавы конкурс».**

**Сярод удзельнікаў конкурсу будуць разлясаваны выдавецтвы БГКТ.**

**Тэрмін дасылання конкурсных адказаў два тыдні, заканчэнне 21 сакавіка. Дык не адкладайце, выберыце значок, які вам найбольш падабаецца, і шліце свой голас на адрас: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.**




АРКАДЗЬ МАРЦІНОВІЧ




Даўно гэта было. Ды і што было? Мімалётнае знаёмства. А от мінула два дзесяцігоддзі, а яно трывожна жыве ў памяці. Успамінаю і не ведаю, чаму не забываецца, чаму хочацца расказаць каму-небудзь пра тое далёкае і кароткае знаёмства.

Наша дывізія, толькі што сфарміраваная, ішла маршам на захад. Яна была яшчэ не поўнасцю ўкамплектавана тэхнікай і амуніцыяй, яшчэ патрэбен быў час, каб падраздзяленні сталі гатовымі да бою. Таму рух дывізіі быў своеасаблівы: яна рабіла марш па 20—30 кіламетраў, а тады спынялася ў якім-небудзь гарадку і навакольных вёсках на тры-чатыры дні, а то і на тыдзень. У гэты час праходзілі вучэбныя заняткі, а па чыгунцы нас даганяў вайсковы ладунак. Потым — зноў марш.

Так было і той раз.

Батальёну, у якім я служыў, выпала спыніцца ў невялікай прырэчнай вёсцы Іванаў Рог. Помню, прыйшлі мы туды, калі сонца ўжо схавалася за лесам, але яшчэ не сцямнела. Размясціліся — як заўсёды: у кожную хату — аддзяленне. Нашаму аддзяленню выпала самая крайняя хата, за якой амаль адразу пачынаўся невялікі поплаў, а там — і рака. Хата была старая, нізкая, здавалася, што яна ад даўнасці ўгрузла ў зямлю. Падышоўшы да хаты, мы расчаравана спыніліся. Камандзір аддзялення пайшоў у хату — дзеля ветлівасці запытаць у гаспадароў дазволу на начлег, хоць вядома было, што ніхто не адмовіць, а калі б і знайшоўся хто адмовіць, дык занялі б хату самі. Незадаволеныя, мы пачалі аглядвацца і перамаўляцца, ці не лепш асталявацца ў якім-небудзь гумне. Гумна не відаць было, ды і камандзір аддзялення, выйшаўшы з хаты, падаў голас:

— Марш, марш! Умыцца! Падрыхтавацца да вячэры! Кухня даўно ўжо чакае...

Голас камандзіра і асабліва напамінак пра кухню падзейнічаў на нас рашуча і хутка.

Неўзабаве з хаты выйшла дзяўчына з вёдрамі ў руках. Дванаццаць пар вачэй сустрэлі яе. Яна ўсміхнулася, і, напэўна, ніхто з нас ужо не пашкадаваў, што нам выпала такая бедная хата.

— Мыйцеся, хлопчыкі, — сказала яна, паставіўшы вядро на мураву. Другое вядро было пустое, і яна трымала яго ў руцэ.

Ну, тут не да мыцця было, мы ўраз абступілі дзяўчыну, кожны гаварыў нешта сваё — хто жартаўлівае, хто сур'ёзнае, хто пяшчотнае; сярод нас, дванаццаці, былі людзі, здатныя на рознае. Усе мы былі, апрача аддзялённага, аднолькава маладыя.

Дзяўчыне, відаць, таксама цікава было, і яна круцілася, адклікаючыся на кожнае слова. Здавалася, яна не магла не ўсміхацца, будучы сярод людзей. Яе вялізныя шэрыя вочы, сустракаючыся з іншымі вачыма, успыхвалі бліскучым агеньчыкам, а пульхныя вусны і буйныя бялюткія зубы былі вільготныя, і, мабыць, таму здавалася, што дзяўчына толькі што перастала рагатаць. Нехта запытаўся, і яна адразу сказала, што завуць яе Таняй. Мы забылі, што стаім перад ёю стомленыя, мурзатыя, прапахлыя потам; яна як быццам таксама не заўважала гэтага, і кожны з нас з удзячнасцю адчуваў яе нейкую свойскасць, чалавечнасць.

Ну, канечне ж, толькі адзін аддзялённы памятаў у гэты час пра нашу паходную кухню.

Неахвотна, па адным, мы пачалі адыходзіць ад Тані. А яна крутанулася і ўжо ад брамкі крыкнула:

— Не шкадуйце вады, я зараз прынясу яшчэ!

Я неўзаметку шмыгнуў за другі бок хаты, і, пераскакваючы цераз рады бульбоўніку, пабег наперарэз Тані, якая ішла па сцежцы цераз поплаў да ракі.

— Памагу несці ваду, — сказаў я,

— Я прывыкла, мне не цяжка, — адказала яна. — Калодзеж у нас яшчэ далей за рэчку.

— Не відна, што прывыкла. Рукі выдаюць, што гарадская.

— Праўда, рукі? — шчыра здзівілася яна, паглядзела на свае рукі, потым — на мяне, усміхнулася і прызналася: — Угу, я вучуся ў педвучылішчы... Вучылася...

Ля берагу рака была травяністая, і да чыстай плыні вяла кладка з вялікіх камянёў. Пакуль я агледзеўся, Таня пераскаквала ўжо з каменя на камень. Я стаяў на беразе і пазіраў, як спрытна яна нагнулася, лёгка зачарпнула вады і, схіліўшыся набок ад цяжару, ішла насустрач мне. Я працягнуў руку, каб узяць вядро, і на дужцы нашы рукі сустрэліся. Гэта працягвалася ўсяго некалькі секунд, але мне здалося, што і Таня не хацела аднімаць руку, што і яе ўсхваляваў гэты дотык і без слоў сказаў нешта патаемнае, важнае... Можа гэта і праўда, бо пасля мы загаварылі не скора і наша маўчанне таксама нагадвала дотык нашых рук.

Я не ўмеў плаўна несці вядро, і яно гойдалася, апырскваючы мае штаны і боты. Таня насміхалася з мяне, і мне было так прыемна чуць яе насмешкі. Потым яна спытала, адкуль я і як мяне завуць. Я адказаў і з жалем думаў, чаму такая кароткая сцежка ад рэчкі да хаты. І яшчэ я лавіў сябе на недарэчнай думцы, што мне чамусьці дзіўна, як у беднай і цеснай хаце выгадавалася такое хараство...

А потым Таня з вялікага меднага

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

8 сакавіка — свята жанчын. Забегалі, замітусіліся мужчыны, стараючыся ўміліць сваім жанчынам гэты дзень, зрабіць ім нейкі прыемны падарунак.

Пакольkі кабета — душа чулая, думаю, што не адна з вас адгукнецца на мой заклік: давайце і мы ўмілім мужчынам гэты дзень! А як гаворыць старая праўда, да сэрца мужчыны найлягчэй трапіць праз жалудак.

Праўда, аднак, і тое, што ў гэты дзень нам хочацца выглядаць асабліва ўрачыста і прыгожа, і зусім не хочацца пэцкаць рукі амаль штодзённым абіраннем бульбы. Таму прапаную менавіта сёння падрыхтаваць вядомую сіцылійскую патраву.

### РЫЗОТА

Як відаць ужо з назвы, блюда гэтае складаецца ў асноўным з рысу.

І шклянку перабранага і вымытага рысу варым у 2,5 шклянках вады. На патэльні падсмажваем 200 г свежага бочку (свіной грудзінкі). Бочак перад смажэннем трэба вельмі дробна пакроіць. Да падсмажанага бочку дадаем 2 нашаткаваныя цыбуліны і нейкі час тушым мяса з цыбуляй на патэльні пад крышкай. Запраўляем гэта трыма лыжкамі памідорнага канцэнтрата і дадаем да зваранага рысу, дакладна размешваючы. Атрыманую масу солім, дадаем па смаку цукру і (абавязкова!) 2 зубкі пасечанага і расцёртага часнаку. Цяпер застаецца толькі вылажыць усё на патэльню альбо ў форму, падмазаную маслам, і запячы ў гарачай духоўцы. Перад падачай на стол добра было б пасыпаць рызота дробна нарэзанай зялёнай пятрушкай.

Гэта — для вашых мужчын, дарагія мае чытачкі.

Калі ж у вашай сям'і пераважае дзетвара, раю зварыць **рысавую кашу з разынкамі.**

1 шклянку прамытага рысу заліць трыма шклянкамі малака, дадаць сталовую лыжку масла, пасаліць і варыць на слабым агні. За 15 мінут да таго, як рыс зварыцца, дадаць па смаку цукру і разынак. Калі каша будзе гатова, няхай яшчэ крыху пастаіць, каб упрэла.

Дзеці гэта вельмі любяць!

P.S. Дзякуем за водгукі і парады нашай чытачкі Г.В. з Белавежы.

Наша чытачка прапануе варыць боршч на хлебным квасе, сыроватцы, ці на заквашаных бураках, паколькі гэткія квасы вельмі здаровыя для арганізма, або на **хатнім воцаце,** які прапануе зрабіць наступным спосабам.

У слоік уліць (крыху пасалоджаную) гатаваную ваду і ўлажыць туды лупіны з яблыкаў і груш. Слоік абвязаць чыстай сціркай, а праз некалькі тыдняў зліць атрыманы воцат у бутэлькі, дадаючы яшчэ па лыжцы цукру.

**Гаспадыня**

**Г.** **Гальсель — «белая». Пры Джонсане была саветнікам у Белым доме. Аднойчы перафарбавала скуру ў чорны колер; ёсць і такія прэпараты — і сталася негрыцянкай. На ўласнай скуры вырашыла праверыць, які лёс чорных дзяўчат у ЗША. Свой горкі вопыт выказала потым у кніжцы «Soul sister» (душа сястры — так між сабою завуцца негрыцянскія жанчыны).**

# ЧОРНАЯ МАЯ СКУРА

Найперш жыла ў Гарлеме, чорным гета Нью-Йорка. Сцвярджае, што акружае яго граніца, горшая за каменныя сцены і калючы дрот — «псіхічная сцяна страху». Негры баяцца пакідаць гета, што выкарыстоўваюць белыя ўласнікі большасці гарлемскіх крам і магазінаў; цэны тут значна вышэйшыя, чым у іншых кварталах Нью-Йорка.

Яна, як стэнатыпістка зарабляла 140 долараў у месяц. Аднапакаёвая кватэра каштавала ёй 100 долараў, такія тут абавязваюць чыншы. У навакольных крамах ніколі не было свежых фруктаў, добрага мяса, прадукты, хоць даражэйшыя, былі ў горшым гатунку.

Адразу на пачатку сваіх «выпрабаванняў» захварэла: ногі пасля апёку пакрыліся пухлінай. У «Harlem — Hospital», пасля доўгага чакання, прыняў яе малады лекар — асістэнт. Вядома, белы. «Прыйшла ты сюды толькі таму, каб паказваць ногі? Вы, негры, павінны часцей мыцца; твае ногі брудныя...» І адышоў, без парады, перавязкі і дапамогі. Тады на тыдзень зняла сваю негрыцянскую маску; яе хатні лекар у Вашынгтоне сцвердзіў, што гэта апёк III ступені, і ледзь выратаваў ногі ад ампутацыі.

Піша Г. Гальсель:

«Раней чорныя здаваліся мне чужымі і замкнёнымі ў сабе. Жывучы сярод іх, зразумела я, што да такіх адносін сапхнулі іх белыя. Тут, у Гарлеме, мы былі ўсе прыязныя адзін да другога. Ведалі мы, што ў гэтым пекле трэба трымацца разам....»

«Потым, ужо ў Індыяноля, з дзвюма маладымі негрыцянкамі ўвайшла ў касцёл баптыстаў. Адкуль я магла ведаць, што гэта касцёл толькі для белых? — піша. — Пастар гаварыў якраз казанне, спыніў, як нас убачыў, а твары белых жанчын перамяніліся, быццам іх паразіў яд скарпіёнаў. Хутка выйшлі мы з гэтага дома божага...»

Г. Гальсель зноў белая. «Ты была мо ў турме? — пыталі ў яе клубе — выглядаеш на дзесяць гадоў старэй». А яна толькі адзін год жыла жыццём аднэй дзесятай жыхароў ЗША. Адзін год, а не аж да смерці.



## Мала, але цікава

Перад вамі двухмесцавы аўтамабільчык, які атрымаў назву «шафа на колах». Яго даўжыня 180 сантыметраў, шырыня 122, вага 300 кілаграмаў. Матор магутнасцю ў 8 конскіх сіл дазваляе развіць хуткасць да 60 кіламетраў у гадзіну. Такія машыны выпускае італьянская фірма «Ламбрэта».

## Літаратурныя гульні

# ХОДАМ ШАХМАТНАГА КАНЯ

Ходам шахматнага каня адгадайце вершаваныя радкі, назавіце аўтара і твор, з якога яны ўзяты.

Адказы просім прысылаць на наш адрас: Redakcja tyg. „Niwa", Białystok, ul. Wesołowskiego 1. да 19.III.1970 г.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| МУ | ЗА | ЦЫ | МО | КАЙ |
| ВЫ | НІ | ЖЫЦ | НА | ДУД |
| ГРА | АБ | | ДО | ГАР |
| ЗАП | ТНУ | СКРЫП | НА | ЧУ |
| ЦЫ | Ю | ЛА | НА | ЛІ |

Сярод тых, хто прышле правільныя адказы, разлясуем кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 8 нумара «Нівы» ад 22.II.70 года:
1) «Паўлінка», 2) «Памяці Марыі Канапніцкай», 3) «Алеся», 4) «Арлянятам», 5) «Заўсёды наперад», 6) «Наша моладзь», 7) «Сыны», 8) «Курган».

## Ці ведаеце, што...

...за пяць год у пецярбургскіх выдавецтвах выйшлі тры зборнікі Янкі Купалы «Жалейка» (1908), «Гусляр» (1910), «Шляхам жыцця» (1913), п'еса «Паўлінка» (1913) і драматычныя паэмы «Адвечная песня» (1910), «Сон на кургане» (1913).

...у дакастрычніцкі час Я. Купала напісаў свае выдатныя творы: «Прымакі», «Раскіданае гняздо» (1913), паэмы «Курган» (1910), «Бандароўна» і «Магіла льва» (1913).

...міжнародны пралетарскі гімн «Інтэрнацыянал» упершыню загучаў на беларускай мове ў перакладзе Янкі Купалы.

...п'есы Янкі Купалы ставіліся яшчэ ў 1913—1915 гадах акцёрамі народнага тэатра пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцката.

...Янка Купала напісаў шмат баек. Найбольш вядомымі з іх з'яўляюцца: «Мікіта і валы», «Асёл і навука», «Два мужыкі і глушэц», «Бот і лапаць», «Ястраб, лісіца і певень», «Пчолы і трутні», «Селянін і конь», «Асёл і яго цень», «Груган і салавей» і іншыя.

...у 1919 годзе ў Маскве ўпершыню асобнай кнігай выйшлі выбраныя вершы Янкі Купалы ў перакладах рускіх паэтаў. (а-к)



## Чвэрць стагоддзя назад




### НАЧЛЕГ У БЯРЛОЗЕ

Да раніцы прайшлі кіламетраў з дваццаць. Недзе злева ад нас цякла Старая Прэгель. Днявалі ў кустах, залёгшы паміж высокімі купінамі, аброслымі зеленавата-сівым мохам. Пад вечар стала брацца на мароз. Мы рашылі пад'есці і добра выспацца. Надралі моху, выслалі неглыбокую ямінку і накрыліся зверху з галовамі так, што заўважыць нас можна было хіба калі наступіш нагой. Мо за ўвесь час нашай разведкі ва Усходняй Прусіі нам ні разу так добра не давялося выспацца. У мяккім моху, як у пярыне, сагрэліся. Апусцелы лес не трывожыў нічым чуйнага сну.

Каб папасці да паштовай скрынкі нумар два ля штабеля дроў, нам трэба было перабрацца цераз Мазурскі канал. Для гэтага ў нас быў толькі адзіны спосаб — пераплысці. Толькі на гэты раз трэба было лезці ў ледзяную ваду.

Праз суткі мы падыйшлі да месца. Ад хвалявання дух заняло: што ж на гэты раз чакае нас тут?

На явачным пункце — ніводнай прыкметы, што тут быў хто-небудзь з нашых. На душы было цяжка.

— Пойдзем да жалезкі, мо там што ёсць, — пасядзеўшы крыху, сказаў я.

Паштовая скрынка нумар адзін была таксама пустая. Некранутай была і наша запіска. Значыць, сляды «джэкаўцаў» прапалі. Мы блукаем адны ўжо дзён якіх дваццаць.

Асцярожна падаліся да тайніка, дзе ўмовіліся пакідаць звесткі новым знаёмым — Громаву і Лазавому. У купіне знайшлі спісаны блакнот. У запісцы гаварылася, што яны наведваюцца сюды кожны дзень у адзінаццаць гадзін, вельмі хочуць сустрэцца, пакінулі нам яду. Побач пад другой купінай мы знайшлі шкляны слоік з прыцёртай накрыўкай. У ім былі бутэрброды з маслам, добры кавалак адваранага мяса, бутэлька мёду і нават тэрмас з жалудовай кавай. Кава была яшчэ цёплая.

Рашылі чакаць. Куды пойдзеш, калі дзень наперадзе?

Прыйшлі Аляксей Лазавы і Іван Громаў. Яны прынеслі кацялок з ядой.

— Дзе вы прапалі? — спытаў Аляксей. — Мы ўжо хваляваліся, хоць бы з вамі нічога не здарылася дрэннага... — І, не чакаючы адказу, выпаліў: — З вамі хоча немец сустрэцца.

Такая навіна нас збянтэжыла.

— Які яшчэ там немец? Вы разумееце, чым гэта можа скончыцца?

— Ды не, не, — замахаў рукамі Аляксей. — Гэта зусім не той немец, які можа прадаць. Мы з ім знаёмы ўжо з год. Мы яму даверяем. Ён нават ведаў і пра парашут, што мы знайшлі і схавалі. Бутэрброды і кава — таксама ад яго. Кожны дзень перадае.

Мы вушам сваім не верылі.

— Дык што ж сказаць Шыллату, немцу нашаму? — не адступаў Аляксей. — Ён просіць, каб мы яму наладзілі сустрэчу з вамі. Яго не трэба баяцца.

— Пакуль што нічога не гаварыце. Ніякіх сустрэч. Ніхто не павінен ведаць, што мы тут.

Палонныя пайшлі. Не паспелі мы з Генкам абгаварыць гэту навіну, як вярнуўся Аляксей. Аддыхаючыся, сказаў спалохана:

— Браткі, лес прачэсваюць!

Мы агледзеліся. У такім парадзелым лесе манеўраваць нельга.

— Лепш да штабялёў — там мы вас драўмі заложым, — рашуча прапанаваў Аляксей. — Паспеем. Яны яшчэ далекавата.

Выбару ў нас не было. Нам нічога не заставалася, як прыняць гэту прапанову. Падпаўзлі да зарасніку, а далей Аляксей ужо падняўся ў поўны рост і пайшоў да штабялёў адзін. Агледнуўшыся, ён махнуў нам рукой — можна ісці. Прыгнуўшыся, мы кінуліся наперад. Мне зноў моцна забалела нага, відаць, ад доўгага пераходу і ад «купання» ў ледзяной вадзе. Мы прыпалі да няпоўнага штабеля дроў. Аляксей, Іван і яшчэ два палонныя хутка аблажылі нас з усіх бакоў бярвеннямі.

Неўзабаве пачулася каманда: «Станавіся!» Громаў прашаптаў нам:

— Спакойна. Сабак няма.

Праз нейкі час мы пачулі, як нехта фальцэтам лічыў:

— Айн, цвай, драй... цен!

Мы зразумелі, што вартавы лічыў палонных.

— Лёс вайтэр! — скамандаваў другі голас.

Нам чытна было, як салдаты пратупалі вакол штабялёў, прайшлі далей.

— Парадак, хлопцы! Яны пайшлі, — пачуўся павесялелы голас Громава зусім побач. — Ляжыце пакуль... Я скажу, калі можна будзе вылазіць.

Выбраліся мы са сваёй схованкі толькі тады, калі вартавы, падмацаваўшыся абедам, зноў пайшоў «шпацырын махен» — прагульвацца па прасецы.

Мы вярнуліся на старое месца.

— Трэба зямлянку будаваць, — загаварыў Генка, — а то ні схавацца, ні паспаць няма дзе. Ды і замерзнем пад адкрытым небам.

# ДЗЕНЬ ВОСЬМЫ

**(РЭПАРТАЖ З БУДУЧЫНІ)**

Аднойчы, у годзе дзве тысячы якімсьці, я сказала мужу за вячэрай:

— Я вырашыла: заўтра іду ў бюро абмену полу і пераўтваруся ў мужчыну.

— О госпадзі, усклікнуў муж, — ты таксама паддаешся модзе! Малінякова перастала быць жанчынай, і калі хочаш ведаць маю думку, гэта ёй зусім не да твару. І наогул я не разумею, чаго вам трэба? Раўнапраўе даўно ўстаноўлена. Якая розніца?

— Калі для цябе няма розніцы, дык я заўтра ж пайду ў бюро абмену, і можаш ад гэтага часу называць мяне Эрык, — адказала я рашуча.

У мужа выцягнуўся твар.

— А што будзе з нашымі дзяцьмі? — паспрабаваў ён супярэчыць.

— Буду рэгулярна плаціць аліменты, — абяцала я. — А па нядзелях лятаць з імі на Месяц. Малінякова жыве і не гаруе.

— Пакінь ты ў спакою Малінякову, — раззлаваўся муж. — Што нам да яе, ці там да яго. Я не маю намеру застацца халасцяком да канца жыцця!

— Я буду табе найлепшым сябрам, — запэўніла я. — І, урэшце, няўжо ты не патрапіш знайсці сабе іншую жанчыну?

— Цікава — дзе? — разлаваўся ён яшчэ больш. — Ад нейкага часу ўсе жанчыны масава мяняюць свой пол, як толькі ім удасца выйсці замуж. Не ведаю, чаго вам трэба.

— Лепей быць мужчынай, чым з мужчынай, — закончыла я дыскусію і пайшла спаць.

Прачнуўшыся на другі дзень, я ўбачыла мужа з букецікам жывых кветак у руцэ.

— Я ўспомніў, — сказаў ён урачыста, — што нашы продкі мелі цудоўны звычай: у восьмы дзень трэцяга месяца кожнага года яны рабілі сваім жонкам падарункі. Ці не праўда, гэта міла! Тыя жанчыны яшчэ не імкнуліся стаць мужчынамі...

— Няўжо, — здзівілася я, — за нейкую кветку нашы прабабулі згаджаліся заставацца жанчынамі? У тыя цяжкія часы, калі нават аўтамат для стаяння ў чарзе яшчэ не быў вынайдзены? Адна кветка ў год узнагароджвала іх за ўсе труды! Дзіўныя істоты! Вельмі міла з твайго боку, што ты ўспомніў аб старажытным звычаі... Ну, ну, добра, я не пайду ў бюро абмену, я застануся жанчынай, хай будзе так... Але ў будучым годзе ты таксама прынясеш мне букецік? Не забудзеш?

**В. Лубкоўская**

## ГАЛАНТНЫ КАВАЛЕР



— Калі ласка, — праходзьце вы першыя...

# НІЎКА



### У ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ

У дзіцячым садзе Валя хваліцца Пецю:

— Мая мама купіла нядаўна прыгожую сястрычку.

— А мы ў гэтым годзе не будзем купляць, бо грошай яшчэ не сабралі.



### БІЛЕТЫ Ў ТЭАТР

Муж прыходзіць з работы і кажа жонцы:

— Я купіў білеты ў тэатр.

— Малайчына, тады я пачынаю ўжо збірацца.

— Так, пачынай, бо гэта трэба хутка — білеты я ўзяў на заўтра.

### Талаваломка

| А | Б | В |
|---|---|---|
| 8 кг | 9 кг | 11 кг |

Устанавіце, колькі важыць кожны шар?

*

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара: трэба выпісаць лік 33.**

### ЦУДОЎНА

— Ці не пайсці мне сёння куды-небудзь павесяліцца? — задумена гаворыць муж.

— Цудоўна прыдумана, дарагі! Калі прыдзеш дамоў першы, пакінь святло ў калідоры.

### ЖОНКА ДАПАМАГЛА

Адзін урач напісаў навуковую работу. Сябры па працы, прачытаўшы дысертацыю, спыталі ў яго:

— Які матэрыял ты выкарыстаў пры гэтым?

— У аснову сваёй дысертацыі я паклаў даследванні характару жонкі.



— Сардэчныя пажаданні з нагоды Дня жанчын.

### МУЛА НАСРЭДЗІН

Кажуць, Мула Насрэдзін быў вельмі непрыгожы, і ён, ведаючы гэта, не любіў глядзецца ў люстэрка. Аднойчы яго жонка, будучы цяжарнай, уважліва паглядзела на твар Мулы і сказала:

— Я радуюся, што ў нас з'явіцца дзіця. Але гора мне, калі яно будзе падобна на цябе.

Мула глянуў на жонку і сказаў:

— Калі дзіця будзе падобна на мяне, то яшчэ паўбяды, але гора табе, калі дзіця не будзе падобна на мяне.

### СОН

Муж — жонцы:

— Вось дык сон я ноччу бачыў!

— Які, дараженькі?

— Цудоўны! Быццам я ў гасцях быў.

— Адзін?

— Адзін. А на стале якіх толькі страў не было! Нават птушынае малако...

— Птушынае малако?

— Ну, цукеркі такія, не ведаеш? Смачныя, хоць з языка не спускай!

— Бач ты, сам еў, а я і не пакаштавала? Без мяне ў госці пайшоў!

— Гэта ж сон, любая. Хіба я вінаваты?

— Ты заўсёды выкручваешся. Што ў галаве, тое і ў сне. Чым ты лепшы, што прысніласся табе, а не мне? Каб сёння ж дастаў гэтага птушынага малака!

**Я. і Г. Бароўкі**

### НА ПОШЦЕ

На пошце наведвальнік запаўняе бланк. З цяжкасцю нацарапаўшы некалькі слоў, ён адкладае ў бок заіржавелае пяро і, уздыхнуўшы, звяртаецца да дзяўчыны ў акенца:

— Відавочна, гэта пяро ляжыць у вас з часоў цара Гароха?

— Даведкі — у другім акне налева, — адказала дзяўчына.

### НЕПАКОЙ

— Што так непакоіць цябе, мой мілы? — спытала маладая жонка свайго мужа. — Цяпер, калі мы жанаты, твае непрыемнасці — гэта ўжо нашы супольныя непрыемнасці, тваё гора — наша гора.

— У такім выпадку магу паведаміць табе, што нейкая дзяўчына падае на нас у суд за парушэнне абяцання жаніцца, — сказаў муж.




— Як відаць, ён скончыў тэатральную школу.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**По просьбе Алі Федарук і Малгосі Мацяеўскай з Беластока змяшчаем песню п. з.**

## STRACHY

**Muzyka: Maciej Kossowski**
**Słowo: Janusz Kofta**

*W moim domu, strasznej budzie,*
*zamiast duchów straszą ludzie,*
*hej, hej, hej!*
*Familijne te upiory*
*wyznaczone mają pory hej,*
*hej, hej, hej!*

*Strach skręca mnie*
*po całych dniach.*

*Straszy mnie nerwowy wujek,*
*że kompotem się otruje,*
*mama straszy makijażem,*
*krzyczy: jeszcze wam pokażę!*

*Strach skręca mnie*
*po całych dniach.*

*Straszy wciąż leciwa ciocia*
*zachowując się jak kociak,*
*blady duch w telewizorze*
*zęby szczerzy jeszcze gorzej.*

*Strach skręca mnie*
*po całych dniach.*

*Babcia warzy jajecznicę*
*aż dym wali na ulicę,*
*tata robi spięcia krótkie,*
*żeby straszyć z lepszym skutkiem.*

*Strach skręca mnie*
*po całych dniach.*

*Tylko praszczur mój nieboszczyk*
*nie uprawia działalności,*
*co najwyżej zaklnie basem*
*lub zaświeci w kącie czasem.*

*Strach skręca mnie*
*po całych dniach.*




### У КНІГАРНІ

У кнігарню ўваходзіць пакупнік і звяртаецца да прадаўшчыцы:

— Ёсць у вас кніжка пад загалоўкам «Мужчына — уладар жанчын»?

— Фантастыка ў суседняй зале.

### ЕВЕ

Колькі пра цябе здаўна
няпраўды нагаворана!
Хіба ты зроблена з рабра?
Не, з языка ты створана!

**З. Скупінскі**

# Курёзы

### Міс 1970




Ужо выбрана «міс Францыі» на 1970 год. Стала ёй 20-гадовая настаўніца. Паланіла яна перш за ўсё ўзростам — 194 см. Туга па «вялікім чалавеку»?

### Новая асацыяцыя

У Нью-Йорку ўзнікла асацыяцыя... цёшчаў. Галоўным заданнем асацыяцыі — весці «самую энергічную барацьбу супраць распаўсюджвання банальных анекдотаў аб цёшчах». У выпадку апублікавання ў друку асобна з'едлівых анекдотаў ці сентэнцый асацыяцыя будзе праследаваць вінаватых у судовым парадку. Дрыжыце, анекдотчыкі!

### Парада

У Вальтэра спыталі, які чалавек павінен жаніцца.

— Да сарака гадоў — не варта, — усміхнуўся Вальтэр, — а пасля сарака гэтага нельга рабіць ужо ні ў якім разе.

### Абышлося без парад

— Чаму Бог стварыў спачатку мужчыну, а толькі пасля жанчыну? — спытала адна дама ў Бернарда Шоу.

— Таму, што ён не хацеў, каб у час стварэння мужчыны жанчына давала яму парады.




Смяёмся з намі — Сямейнае надзвычайнае здарэнне: зяць пацалаваў цёшчу. (П. Шыбут).